# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 36 (1791) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 9 ВЕРАСНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.





*Удзельнікі курсу з дац. М. Яленскім на плошчы імя Леніна ў Мінску.*




У гэтым годзе настаўнікі беларускай мовы з Беласточчыны чарговы раз пабывалі на курсе ў Мінску. Прымаў іх, як і раней, Педагагічны інстытут імя М. Горкага. Настаўнікам былі прачытаны навуковыя даклады супрацоўнікамі інстытута на наступныя тэмы: беларуская сучасная літаратура, методыка навучання беларускай мовы, беларуская матэрыяльная культура, выбраныя тэмы па гісторыі Беларусі. Наладжаны былі сустрэчы з аўтарамі падручнікаў. Некаторыя заняткі адбываліся ў спецыяльных пляцоўках, такіх, як Нацыянальны музей, Інстытут культуры ці іншых.

Вельмі цікавымі і карыснымі былі сустрэчы ў выдавецтвах і рэдакцыях беларускіх часопісаў. Настаўнікі сустрэліся з рэдакцыяй часопіса „Беларуская мова і літаратура ў школе". Размова ішла аб улічванні ў публікацыях спецыфікі навучання беларускай мовы на Беласточчыне, у Польшчы. У гэтым напрамку рэдакцыя ўжо зрабіла добры пачатак і думае далей гэта працягваць, як запэўніў настаўнікаў галоўны рэдактар часопіса Міхась Шwырко.

Падобная сустрэча адбылася і ў рэдакцыі часопіса „Вясёлка".

Вельмі ґрунтоўныя размовы адбыліся ў нас з выдавецтвамі „Народная асвета" і „Мастацкая літаратура". Мы падкрэслівалі там, што, калі некаторыя прадметы можна навучаць толькі з падручнікаў, дык беларускую мову і літаратуру выкладаць без кніжак беларускіх пісьменнікаў немагчыма. Няма ў нас у Польшчы магчымасцей задаволіць чытацкія патрэбы вучняў, асабліва ў літаратуры апошняга часу. Такія ж патрэбы выразна выступаюць і ў іншых асяроддзях, не толькі школьных. Напрыклад, беларусы з Гданьска звяртаюцца да Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі і ў рэдакцыю „Нівы" ў пошуках беларускіх кніжак. Яны арганізавалі ў сябе курс навучання беларускай мовы, а кніжак для гэтага ніякіх няма. У такіх справах нам можа памагчы толькі Беларусь. І мы вельмі лічым на такую дапамогу.

Арганізатары курсу зрабілі нам цікавыя экскурсіі. Мы пабывалі ў Вільні, у Мікалаеўшчыне — на радзіме Якуба Коласа, у Вязынцы — на радзіме Янкі Купалы, былі ў Хатыні, Курапатах, а таксама прымалі ўдзел у святкаванні 500-годдзя пераможнай Грунвальдскай бітвы, удзельнічалі ў Купаллі, пабывалі ў тэатрах, цырку і на канцэрце Беларускага народнага хору імя Цітовіча.

Пад канец нашага прабывання ў Мінску мяне, як кіраўніка курсу, і методыка беларускай мовы на Беласточчыне Тамару Русачык прыняла намеснік міністра народнай адукацыі Беларусі Людміла Сухнат. З размовы мы даведаліся аб пераменах, якія адбываюцца ў сістэме народнай адукацыі Беларусі, аб увядзенні закона аб мовах, а таксама аб арганізаванні навучання польскай мовы для палякаў, што пражываюць на Беларусі. Мы са свайго боку расказалі аб стане навучання беларускай мовы ў Польшчы і аб праблемах, якія мы не можам самі вырашыць без дапамогі з Беларусі. Да гэтай праблемы мы залічылі недахоп мастацкай літаратуры і дапаможнікаў для навучання беларускай мовы. Мы прадставілі міністру такія свае просьбы і прапановы:

1. Каб з кожнай выдадзенай на беларускай мове новай кніжкі хоць 500 экземпляраў трапіла ў Ваяводскую педагагічную бібліятэку ў Беластоку, якая па ўзгадненню з куратарыяй і настаўнікамі раздзеліць гэтыя кніжкі па школах, дзе навучаецца беларуская мова.

2. Апрача штогадовага курсу настаўнікаў у Мінску, стварыць яшчэ магчымасць бываць на Гродзеншчыне настаўнікам Бе-

(Працяг на стар. 6)




## ШКОДНАЕ ГЭТА ІНТЭРВ'Ю

У 31 нумары „Нівы" ад 5 жніўня гэтага года ў рубрыцы „Погляды" быў змешчаны фрагмент інтэрв'ю намесніка старшыні БНФ „Адраджэнне" Юрыя Хадыкі, данае ім часопісу „Тыгоднік Беластоцкі". І нічога, што быў гэта толькі невялікі фрагмент — асноўнае крэда яго выступіла ў гэтым фрагменце ва ўсёй сваёй велічыні і прыгажосці. Вось яно: „Неабходна адраджэнне Уніяцкай царквы. Гэта ж аўтэнтычнае веравызнанне беларусаў, якое выводзіцца непасрэдна ад прынцыпаў хрысціянства і якое можа нас усцерагчы ад атэізму... І таму фронт, не зважаючы на супярэчнасці, імкнецца адрадзіць уніяцкую рэлігію — стрыжань беларускай культуры".

З падобным фальшам і бязглуздзіцай у ацэнцы уніі даводзіцца сустракацца даволі часта, але дасюль такія ацэнкі паходзілі амаль выключна ад прадстаўнікоў той нацыі, якая дзеля сваёй і толькі сваёй карысці навязала нам унію, або той, якая сілай ліквідавала яе. Але каб пачуць гэта ад саміх беларусаў, і да таго ж, здавалася б, моцна свядомых беларусаў?...

Аўтэнтычным веравызнаннем беларусаў, якое выводзіцца непасрэдна ад прынцыпаў хрысціянства, была не унія, а праваслаўе — гэта па-першае. І каму як каму, але вам, хлопцы з фронту, трэба аб гэтым ведаць. І па-другое, трэба таксама ведаць, што ў ніякім выпадку не была яна дабрадзействам для беларускага народа, а горам, вялікім і доўгім горам. Таксама як, многа пазней, і ліквідацыя яе. Зайздросціць нашым няшчасным продкам уніі, лічу звычайным кашчунствам, прафанацыяй, а мо і яшчэ чымсьці горшым.

Спачатку ўсе беларусы, як вядома, былі праваслаўнымі і толькі праваслаўнымі. Потым у большасці сваёй сталі уніятамі, а з уніятаў ізноў сталі праваслаўнымі або каталікамі. Гэтыя змены рэлігіі нашых продкаў адбываліся не па іх волі ці з прычыны хісткасці іх рэлігійных перакананняў, а па волі нашых бліжэйшых суседзяў з захаду і ўсходу, таксама хрысціян. Навязваючы нам гэтую унію каталіцкі клір і правячы Першай Рэчы Паспалітай імкнуліся да таго, каб праваслаўную Беларусь і Украіну падпарадкаваць

(Працяг на стар. 4)

# Дэкларацыя

## ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

## АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СУВЕРЭНІТЭЦЕ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспублікі,

выяўляючы волю народа Беларускай ССР,

усведамляючы адказнасць за лёс беларускай нацыі,

пацвярджаючы павагу годнасці і правоў людзей усіх нацыянальнасцей, якія жывуць у Беларускай ССР,

сведчачы павагу да суверэнных правоў усіх народаў Саюза ССР і свету,

лічачы рэспубліку паўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва,

дзейнічаючы ў адпаведнасці з прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншымі агульнапрызнанымі міжнароднаправавымі актамі,

урачыста абвяшчае поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР як вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасць яе законаў, незалежнасць рэспублікі ў знешніх зносінах і заяўляе аб рашучасці стварыць прававую дзяржаву.

### АРТЫКУЛ 1

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — суверэнная дзяржава, якая ўсталявана на аснове ажыццяўлення беларускай нацыяй яе неад'емнага права на самавызначэнне, дзяржаўнасці беларускай мовы, вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу.

Неад'емныя правы Беларускай ССР як суверэннай дзяржавы рэалізуюцца ў адпаведнасці з агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права. Беларуская ССР ахоўвае і абараняе нацыянальную дзяржаўнасць беларускага народа.

Беларуская ССР мае свой герб, сцяг і гімн.

Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці Беларускай ССР з боку палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў ці асоб праследуюцца па закону.

### АРТЫКУЛ 2

Грамадзяне Беларускай ССР усіх нацыянальнасцей складаюць беларускі народ, які з'яўляецца носьбітам суверэнітэту і адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў рэспубліцы. Яго поўнаўладдзе рэалізуецца непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы дзяржаўнай улады.

Права выступаць ад імя ўсяго народа рэспублікі належыць выключна Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР.

### АРТЫКУЛ 3

Дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР сцвярджаецца ў імя вышэйшай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна рэспублікі на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларускай ССР і яе міжнароднымі абавязацельствамі.

### АРТЫКУЛ 4

Грамадзянства Беларускай ССР з'яўляецца неад'емнай часткай яе суверэнітэту. Рэспубліка ахоўвае гонар, здароўе, правы і законныя інтарэсы сваіх грамадзян, забяспечвае іх сацыяльную абароненасць. Яны знаходзяцца пад яе абаронай, будучы за межамі Беларускай ССР. Рэспубліка прымае ў грамадзянства і вырашае пытанне аб выхадзе з грамадзянства.

### АРТЫКУЛ 5

Зямля, яе нетры, іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі Беларускай ССР, паветраная прастора з'яўляюцца ўласнасцю беларускага народа, якому належаць выключныя правы валодання, карыстання і распараджэння імі.

Вызначэнне прававога рэжыму ўсіх відаў маёмасці адносіцца да выключнай кампетэнцыі Беларускай ССР.

Беларуская ССР мае права на сваю долю ў агульнасаюзнай маёмасці адпаведна ўкладу беларускага народа і як рэспубліка — заснавальніца Савецкага Саюза, якая была яго правадзейным суб'ектам, мае права на сваю долю ад алмазнага, валютнага фондаў і залатога запасу СССР.

Беларуская ССР утварае Нацыянальны банк, падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету рэспублікі, стварае сваю фінансава-крэдытную сістэму, пацвярджае права ўласнасці на спецыялізаваныя банкі, якія знаходзяцца на яе тэрыторыі на момант прыняцця гэтай Дэкларацыі, арганізуе ўласныя падатковую і мытную службы; мае права на стварэнне ўласнай грашовай сістэмы.

### АРТЫКУЛ 6

Тэрыторыя Беларускай ССР з'яўляецца непадзельнай і недатыкальнай і не можа быць зменена або выкарыстана без згоды Беларускай ССР.

Усе пытанні аб граніцах вырашаюцца толькі на аснове ўзаемнай згоды паміж Беларускай ССР і суседнімі суверэннымі дзяржавамі шляхам заключэння адпаведных дагавораў, якія падлягаюць ратыфікацыі Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

### АРТЫКУЛ 7

На тэрыторыі Беларускай ССР устанаўліваецца вяршэнства Канстытуцыі Беларускай ССР і законаў Беларускай ССР.

Усе грамадзяне і асобы без грамадзянства, дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы і арганізацыі, якія знаходзяцца або дзейнічаюць на тэрыторыі Беларускай ССР, абавязаны выконваць заканадаўства Беларускай ССР.

Размежаванне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады з'яўляецца важнейшым прынцыпам існавання Беларускай ССР як прававой дзяржавы.

Вышэйшы нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем законаў Беларускай ССР ажыццяўляецца Генеральным пракурорам Беларускай ССР, які назначаецца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР.

### АРТЫКУЛ 8

Беларуская ССР самастойна ўстанаўлівае парадак арганізацыі на тэрыторыі рэспублікі аховы прыроды, выкарыстання прыродных рэсурсаў і забяспечвае народу рэспублікі экалагічную бяспеку.

Беларуская ССР мае права на пакрыццё страт, нанесеных ёй дзеяннямі саюзных органаў, саюзных рэспублік і іншых дзяржаў.

Беларуская ССР патрабуе ад Урада СССР безумоўнай і тэрміновай кампенсацыі страт, звязаных з пераадоленнем наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Сваю свабоду і суверэнітэт Беларуская ССР у першую чаргу выкарыстоўвае на выратаванне народа Беларускай ССР ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

### АРТЫКУЛ 9

Беларуская ССР самастойная ў рашэнні пытанняў культурнага і духоўнага развіцця беларускай нацыі, іншых нацыянальных супольнасцяў рэспублікі, у стварэнні ўласнай сістэмы інфармацыі, адукацыі і выхавання.

Беларуская ССР забяспечвае функцыяніраванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця, захаванне нацыянальных традыцый і гістарычнай сімволікі.

Нацыянальныя, культурныя і гістарычныя каштоўнасці на тэрыторыі Беларускай ССР з'яўляюцца выключна ўласнасцю рэспублікі і яе грамадзян.

### АРТЫКУЛ 10

Беларуская ССР мае права на ўласныя Узброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, падкантрольныя Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР.

Беларуская ССР мае суверэннае права вызначаць парадак і ўмовы праходжання яе грамадзянамі вайсковай службы, службы ў органах дзяржаўнай і грамадскай бяспекі, вырашаць пытанні размяшчэння войск і ўзбраення на сваёй тэрыторыі.

Ніякія вайсковыя фармаванні іншых краін, іх ваенныя базы і пабудовы не могуць быць размешчаны на тэрыторыі Беларускай ССР без згоды яе Вярхоўнага Савета.

Беларуская ССР ставіць мэтай зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а рэспубліку — нейтральнай дзяржавай.

### АРТЫКУЛ 11

Беларуская ССР самастойна ажыццяўляе правы на добраахвотныя саюзы з іншымі дзяржавамі і свабодны выхад з гэтых саюзаў.

Беларуская ССР прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дагавора аб саюзе суверэнных сацыялістычных дзяржаў.

### АРТЫКУЛ 12

Палажэнні дадзенай Дэкларацыі рэалізуюцца Вярхоўным Саветам Беларускай ССР шляхам прыняцця новай Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР, законаў Беларускай ССР.

27 ліпеня 1990 года.
г. Мінск

# ГЕРОІ

Дзесяць гадоў назад у краіне паявілася арганізацыя, што назвала сябе палітычнай партыяй: Канфедэрацыя Незалежнай Польшчы (КПН). Яе тэрытарыяльная структура існуе і ў Беластоку: так званая X акруга КПН. Не ведаю дакладна, колькі членаў у беластоцкай КПН. Аднак жа дзейнасць беластоцкіх КПН-аўцаў вядзецца надзвычай крыкліва і злосна. Пра інтэлектуальныя магчымасці членаў КПН найлепш сведчаць лозунгі, якія яны з маньякальнай заўзятасцю шмаруюць на сценах беластоцкіх камяніц. Апошнім часам беластоцкая КПН здзейсніла надзвычай гераічны подзвіг.

14 жніўня 1990 г. у беластоцкім гарадскім парку быў зняты з пастумента помнік удзячнасці салдатам Савецкай Арміі. Улады горада знялі яго ўранні, цішком, і КПН-аўцы не паспелі дабегчы, каб дапамагчы. Назаўтра беластоцкія газеты развярашчаліся заявай КПН аб тым, што яна абурана такой няўвагай гарадскіх улад да сябе і гэтаму падобнае. На суцяшэнне КПН-аўцам застаўся пастумент. Ім, праўда, не ўдалося яго разваліць (дзеля гэтага не хапіла б і дапамогі КПН з суседняй акругі), затое яны малаткамі і долатамі разбілі ўшчэнт барэльеф вакол пастумента. І пакінулі надпіс: „Тут стаяў помнік ганьбы, разбурыла яго КПН“. Беластоцкія газеты змясцілі справаздачы з нагоды гэтага подзвігу.

Сённяшніх палякаў цяжка зразумець. Апаганеныя магілы савецкіх салдат, сотні тысяч якіх паклалі галаву за вызваленне Польшчы з-пад гітлераўскай акупацыі, разбураныя або разабраныя помнікі ўдзячнасці для людзей, якія ў свой час аддалі жыццё, каб засталіся цэлымі польскія помнікі. Выратаваны ад знішчэння Кракаў, манастыр на Яснай Гары ў Чанстахове... Зараз палякі мяне пераконваюць, што яны вызваліліся б самі, бо, як крычала адна баба ля разабранага помніка ў Беластоку, „byliśmy uzbrojeni po zęby i dalibyśmy radę bez nich!“. Гэта гучыць злосна і фальшыва, каб не сказаць — паранаічна. Як сёння палякі ацэньваюць той факт, што Савецкая Армія ў ліпені 1944 года запынілася на лініі Віслы і чакала, пакуль немцы дакануць Варшаўскае паўстанне? Адназначна, як факт нежадання з боку савецкага камандавання дапамагчы палітычна непрыхільнай саветам сіле. Чаму ж тут абурацца? Калі мы вам недаспадобы, то вызваляйцеся самі! Што з таго вызвалення выйшла, сёння мы добра ведаем. Ідучы далей за гэтай думкай, давайце на хвіліну ўявім такую сітуацыю: савецкія арміі выганяюць фашыстаў з тэрыторыі СССР і запыняюцца на заходняй мяжы дзяржавы. Няма ніякага сумнення, што немцы пакінулі б у Польшчы столькі палякаў, колькі патрабавалі б парабкаў. І сёння была б мяжа не савецка-польская, а савецка-нямецкая. І пра ніякія польскія партыі не чуваць было б у свеце, у тым ліку і пра КПН. А тая жменька палякаў, якая б засталася на Захадзе, ліла б кракадзілавы слёзы і пісала заявы, што крывадушныя саветы прысудзілі Польшчу да гібелі. Ці ж не так было б? Пра гэта ведаюць і палякі, калі хоць крыху цвяроза падумаюць. Бяда ў тым, што сёння яны не любяць прызнаваць сваіх памылак, а тым больш — іншым рацыю. А можа, людзі ўжо зусім адвучыліся ў нас думаць?

Такім чынам сёння мы ў Польшчы прыйшлі да таго, што вызваленне краіны саветамі ў 1944—45 г.г. лічым падзеяй ганебнай. Аб гэтым пакуль што маўчаць школьныя падручнікі. Але неўзабаве, як належыць спадзявацца, і гэтыя недагляд будзе выпраўлены. Пра гэта паклапоціцца Канфедэрацыя Незалежнай Польшчы. Яна таксама запрапануе новых герояў для гісторыі. Напрыклад, тых з беластоцкага парку з малаткамі і долатамі. Чым жа яны не героі?

Васіль Петручук








**ДАРАГІЯ СЯБРЫ!**

Я быў прыемна здзіўлены і вельмі абрадаваны, калі некалькі дзён таму назад атрымаў ад вас камплект вашага тыднёвіка за другі квартал гэтага года. У „Ніве" я прачытаў, што не толькі ад мяне ёсць скаргі на нерытмічную дастаўку газеты. Хацелася б, каб ні Вы, ні я, ні хто іншы ў будучым не меў клопату з перыядычнасцю паступлення „Нівы" сваім адрасатам.

Не ведаю толькі, як аддзячыць вам. Спадзяюся, што праз нейкі час змагу выслаць вам кніжачку беларускіх прымавак у маім перакладзе на нямецкую мову (калі за гэты час не абанкроціцца выдавецтва). Я мог бы і заплаціць за дасланыя нумары. У гэтым выпадку напішыце мне, калі ласка, як мне быць.

Яшчэ раз вялікі дзякуй за вашу пастаянную гатоўнасць дапамагаць мне.

З шчырым прывітаннем

**Ваш Норберт Рандаў**
**Берлін**

**Ад рэдакцыі.** Нашым сябрам заўсёды спяшаемся з дапамогай. Пра падзяку не клапаціцеся, але за кніжачку былі б мы вельмі ўдзячныя.

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ!**

Пішу вам з незнаёмага краю, з поўначы Расіі, але нарадзіўся і доўга пражываў я ў Беларусі, чытаючы ваш тыднёвік. Ведаю, што дзесьці за мяжою жывуць мае суайчыннікі, але чытаю яго тады, калі бываю ў родных мясцінах на Брэстчыне.

Вельмі прыемна ведаць пра жыццё суайчыннікаў, дзейнасць беларускіх арганізацый. Пра сябе: 36 гадоў, маю сям'ю.

**СССР 663318**
**Красноярский край**
**г. Норильск**
**ул. Лауреатов, 51-52**
**Якимчук Пётр Андреевич**

**ДЗЯКУЕМ ЗА НОВЫЯ ДАРОГІ**

**Доўгі час з вёскі Казлы Бельскай гміны цяжка было выехаць на поле ці ў суседнюю вёску. Ранейшы солтыс, які гаспадарыў у вёсцы 18 гадоў, не квапіўся не толькі арганізоўваць жыхароў да грамадскай працы, але, калі нават яны самі нешта хацелі рабіць, це прымаў у гэтай працы ўдзелу або нават не дазваляў.**

**Цяпер, вось ужо чацверты год, солтысам у нас працуе Васіль Купрынюк. Ён не шкадуе ні сваіх сіл, ні часу на тое, каб у вёсцы нашай жылося лягчэй. Дзякуючы яму была пракладзена дарога з Казлоў на Дубяжын і на Бельск даўжынёй каля 3 км. Да гэтага часу тут можна было праехаць толькі фурай, а цяпер і машыны свабодна ездзяць. Пабудавана таксама дарога там, дзе ян раней зусім не было, дзе людзям даводзілася ісці пешшу, хоць і гэта было не простай справай. А дарога там вельмі патрэбная.**

**Разам з Валянцінам Семенюком солтыс Васіль Купрынюк змог так арганізаваць да працы жыхароў Раек, што цяпер па новай дарозе з Раек у Студзіводы ездзяць трактары і іншыя машыны.**

**Вельмі ж удзячны мы за новую дарогу, бо яна скарціла даезд у Бельск на 2 км.**

***Жыхар Раек***
**(Прозвішча да ведама рэдакцыі)**

**ПАМОГ КАШПІРОЎСКІ**

**Вярнуўшыся з Ольштына, я зайшоў да знаёмага нашага разьбяра Міхася Вайткевіча. Яго хата ўся застаўлена фрагментамі іканастаса, які ён рэзьбіць для царквы ў Дуброве Беластоцкай. Гэта новая царква. А іканастас велізарны — 9,30 на 8 метраў. Будаваў гэту царкву, як кажа Міхась, Мікалай Дайнека ў 1984 годзе.**

**— Ты чаму цяпер у „Ніву" не пішаш? — пытаецца разьбяр.**

**— Жыву я цяпер ад вас далёка, — адказваю, — але пісаць буду. Як толькі да вас прыязджаю, адразу ёсць аб чым пісаць.**

**— Ты, Андрэй, напішы, каб тэлевізія часцей паказвала Кашпіроўскага. Мне ён вунь як памог! Меў я на назе вялізныя жылкі, а цяпер, вось паглядзі, няма, не відаць. А было так, што адна жыла нават прарвалася, кроў цякла, а лекары памагчы не могуць. Як паглядзеў я Кашпіроўскага па тэлевізары, усё загаілася. І жылкі прапалі. Не адзін я так паздаравеў.**

**Выконваю просьбу Міхася Вайткевіча з прыемнасцю.**

**Андрэй Гаўрылюк**




Улічваючы пажаданні шматлікіх жыхароў Белавежы, нававыбраная гмінная рада і войт аб'явілі конкурс на праект герба гэтай мясцовасці. Сёння ўжо ведаем, што перамог Васіль Скепка, жыхар Белавежы, вядомы ў асяроддзі дзеяч ПТТК.

— Пра сам конкурс, — кажа нам В. Скепка, — я даведаўся ад Міхася Дулько, члена гмінай рады (і — дадайма — члена ГП БГКТ). Спачатку не думаў, што прыму ўдзел, але Міхась мяне заахвоціў. Варыянтаў праекта паўстала некалькі — найлепшым я палічыў апошні, ён і выйграў. Мне асабліва прыемна, што ў конкурсе я перамог прафесійнага мастака.




*Чорна-белая версія герба Белавежы аўтарства В. Скепкі.*

— Вядома, — працягвае пераможца, — што герб Белавежы без зубра абысціся не можа — я і змясціў яго на першым плане. А ці можна аддзяліць зубра ад лесу? Таксама не. Таму на другім плане памясціў сілуэты дрэваў розных відаў. Трэці план запоўніў „белай вежай", ад якой шмат хто выводзіць назву мясцовасці, хоць меркаванні наконт гэтага розныя. Усё гэта ўпісаў у „падкову" з дубовага лісця з двума жолудамі, памятаючы аб тым, што дуб — сімвал мацаты, каралеўскі гатунак. Уверсе змяшчаецца надпіс „Белавежа". Неабыякавую ролю ў гербе адыгрываюць колеры. Розныя адценні зялёнага сведчаць аб разнароднасці раслiннага свету. Блакіт гаворыць аб тым, што паветра над пушчай і мясцовасцю яшчэ даволі чыстае. Залаты колер лісця сімвалізуе каралеўскасць Белавежы. У гербе можна было б змясціць яшчэ некалькі іншых элементаў, але я пабаяўся, што ён будзе перагружаны дэталямі.

Варта тут адзначыць, што Васіль Скепка з'яўляецца аўтарам некалькіх праектаў памяткавых штэмпеляў і сцяжкоў з Белавежы, добра ацэненых турыстамі. Некалькі гадоў ён вёў майстэрню шыльдаў. Цягу да малявання праяўляе таксама яго жонка (Васіль кажа, што ў яе выходзіць лепш, чым у яго) і дзве дочкі. Зараз В. Скепка працуе сакратаром Праўлення аддзела ПТТК у Белавежы. Ён жа таксама з'яўляецца аўтрам назваў некалькіх вуліц у сваёй мясцовасці.

**Пётр Байко**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (ІІ АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

**— 24 —**

У Правінцыянальны камітэт у Гродне ўвайшлі: Баранаў, Якубэцкі, Курбскі, Новік, Разумовіч.

У Правінцыянальны камітэт у Слуцку ўвайшлі: Бараноўскі, Бэрдзюк, Асвецімскі, Паўлюкевіч, Пракулевіч, Русак, Заўрыд.

У Правінцыянальны камітэт у Дзісне ўвайшлі: Гірніман, Кудрыцкі, Мятла, браты Пашкевічы, Зысман.

У Правінцыянальны камітэт у Бабруйску ўвайшлі: Разанаў, Шаптыр, Шыла.

У Правінцыянальны камітэт у Барысаве ўвайшлі: Гунко, Кушаль, Кранікоўскі.

У Правінцыянальны камітэт у Мінску ўвайшлі: Багданаў, Грыб, Езавітаў, Касціцкі, Крэчаўскі, Мамонька, Міхалевіч, Шыла, Трафімаў, Захарка, Заяц.

У Правінцыянальны камітэт у Вільні ўвайшлі: Цвікевіч, Краскоўскі, А. Луцкевіч.

Мэтай беларускіх эсэраў было стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, у этнаграфічных межах сцісла звязанай з Савецкай Расіяй. У такім напрамку эсэры вялі энергічныя дзеянні. Наколькі інтэлігенцкія адзінкі ішлі на такія эсэраўскія ідэі, настолькі беларускі селянін у далейшым аставаўся пасіўны.

Прапаганда, якая з увагі на акупацыю магла вясціся даволі асцярожна, на беларускім народным грунце не давала пажаданых ураджаяў. З увагі на пасіўнасць беларускіх мас, дзейнасць беларускіх эсэраў абмяжоўвалася да інтэлігенцкіх асобаў і да арганізоўвання правінцыянальных камітэтаў з мэтай усведамляючага ўплыву на грамаду. Гэта былі рамкі, за якія дзейнасць эсэраў у гэтым часе не выйшла.

**Раздзел XIV**

**Адыход немцаў з Беларусі: IV Устаўная Грамата (Рады беларускіх народных міністраў) ад 29.XI.1918 г. Пабег Рады міністраў у Вільню, Гродна і Чэшскую Прагу. V Устаўная Грамата ад 8.XII.1918 г.**

У лістападзе 1918 года пасля паражэнняў на Заходнім фронце ў Германіі выбухнула рэвалюцыя. Акупацыйная нямецкая армія з Беларусі, стварыўшы за рускім прыкладам уласныя Саветы, спешна вярталася на Радзіму. Звольненыя немцамі тэрыторыі хутка апаноўвалі бальшавікі.

Рада Беларускай Рэспублікі супольна з Радай народных міністраў патрактавалі гэты момант як спрыяльны да таго, каб узяць у свае рукі ўладу. Не маючы ніякіх сіл, якія паўстрымалі б бальшавіцкі наступ, яна аб'явіла IV Устаўную Грамату з наступным зместам:

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, атрымаўшы паўнамоцтвы ад беларускага народа на Усебеларускім з'ездзе, у сваіх адозвах ад 9 і 25 сакавіка 1918 года аб'явіла, што ўся ўлада на Беларускай Зямлі пераходзіць у рукі народа.

Зямля, лясы і прыродныя багацці краю былі аб'яўлены ўласнасцю народа. Услед за гэтым Рада прыступіла да будавання незалежнай беларускай дзяржавы на прынцыпах, устаноўленых Актам ад 25 сакавіка 1918 года.

Нямецкая акупацыя прытармазіла гэту дзейнасць і выклікала тое, што перадача ўлады народу і вырашэнне сельскай праблемы на прынцыпах справядлівасці не было магчымым.

Цяпер, калі нямецкі народ завёў у сваёй краіне новыя парадкі і калі нямецкія войскі пакідаюць нашу краіну, наступіў момант адпаведні для таго, каб Беларускі Народ, які сотні год адпакутаваў у чужой няволі, стаўся поўным гаспадаром у сваёй вольнай і незалежнай Айчыне.

Беларускі ўрад, складзены з прадстаўнікоў усіх фракцый сацыялістычных партый і папоўнены „Радай Беларускай Народнай Рэспублікі" заклікае Беларускі Народ да выкарыстання выключнага моманту — моманту знішчэння старога парадку свабоднымі народамі.

**(Працяг будзе)**




**(Працяг са стар. 1)**

Ватыкану і Польшчы, а ліквідаваўшы яе царызм наадварот — каб вярнуць уніятаў праваслаўнай царкве і тым самым мацней звязаць з Расіяй.

І дзіўная рэч: і адны, і другія ў дасягненні сваёй мэты карысталіся падобнымі метадамі і прыёмамі. Галоўнай жа мэтай першых была паланізацыя, а другіх — русіфікацыя, а не беларусізацыя.

А што на гэта беларусы? А нічога. Спачатку вельмі не хацелі быць уніятамі, але іх рабілі сілай, а потым, калі ўжо вельмі хацелі быць імі, сілай пачалі рабіць праваслаўнымі. І нічога тут дзіўната, што не хацелі быць праваслаўнымі, бо ад стольких пакаленняў былі ўжо уніятамі. Гэтае пакаленне ўжо нават не ведала, што іх продкі былі праваслаўнымі.

Здзіўляе і тое, што калі ўжо унія мела быць такой добрай, справядлівай і Богуўгоднай рэлігіяй, чаму ж тады тыя, хто з такой ахвярнасцю нам яе расхвальваў і навязваў, забараняў станавіцца уніятамі сваім католікам? Або чаму уніятаў ніколі не зраўнялі ў правах з католікамі, а надалей былі яны грамадзянамі другой катэгорыі?!

А таму, шаноўныя хлопцы з фронту, каб ім не аплачвалася быць уніятамі, і тым самым уніяты пераходзілі ў перспектыўнае каталіцтва. Дарога ж з уніі да каталіцызму надта ўжо простая і кароткая, не тое, што з праваслаўя. І многія пераходзілі, вельмі многія. Стаўшы ж каталікамі, даволі хутка пачыналі чуцца палякамі і служыць не беларускай, а польскай нацыі. На гэта менавіта і была разлічана унія. Яна мела быць пераходным этапам з праваслаўя ў каталіцызм.

Дзе, скажыце, роды нашых славутых і багацейшых на ўсю Еўропу князёў і магнатаў? Дзе наша славутая шляхта?! Адказ просты — у польскай літаратуры, у польскай культуры, у польскай гісторыі. Бо ўсе яны, дзеля ўласнай выгады, змушаны былі прайсці падобную метамарфозу.

У царскай Расіі уніятам не давалі спакою. То перахрышчвалі іх на каталікаў, то на праваслаўных, і, канешне, не вельмі пытаючы ў іх згоды. Многія з такіх свежаспечаных праваслаўных потым сталі каталікамі. Пасля, напрыклад, талеранцыйнага царскага ўказу з 1905 г. — паводле скромнай польскай статыстыкі — толькі на Холмшчыне і Падляшшы аж 180 тысяч праваслаўных прыняло каталіцкую веру. Значыць, сталі палякамі, хаця і маглі цяпер вярнуцца да уніі і тым самым астацца беларусамі і ўкраінцамі. А колькі іх было па ўсёй Беларусі?!

Так масава пераходзілі цяпер на каталіцызм беларусы таму, што жыў яшчэ ў народзе гнеў на царызм і праваслаўнае духавенства за ліквідацыю уніі ў

**(Працяг на стар. 5)**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Беласток, вул. Мазавецка.*
*Мал. У. Петрука*

## САКРАТ ЯНОВІЧ
## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**— 11 —**

Аркадзя Куляшова я амаль не ведаў як паэта, а як чалавека, то і зусім. Адштурхоўвалі ад яго ўсе тыя падручныя вершы, услаўляючыя камунізм, які дакладна абрыд народу. Бачыў я раз Куляшова ў Беластоку, у час пачатку „Нівы“, і той міг застаўся ў маёй памяці тым, што сярод іншых тады савецкіх гасцей вырозніваўся ён некаторай шыкоўнасцю і нават арыстакратычнасцю ў сваіх паводзінах. Праз трыццаць „з гакам“ гадоў, калі самога ўжо няма на свеце, я прачытаў кніжду дачкі пра бацьку і ўпершыню задумаўся над яго творчасцю ды лёсам. Навука для мяне ад напісанага Валянцінай яшчэ і такая, што літаратура сапраўды не павінна існаваць толькі творамі. З імі трохі так, бы з дарагім каменем, прыгажосць якога падкрэсліваецца аправаю... Не дакрануўшыся да жыцця аўтара, яго працы і пакут, сам літаратурны „тавар“ бачыцца часцей праз холад шыбы вітрыны.

Так з кожным вынікам дзеяння, калі падаецца ён ізаляваны. Колькі ж рагатлівага смеху бывае, напрыклад, у музеях, калі ўпасвены ідыёт з начальніцкага дома строіць кепікі над сахою... У Беларусі надзвычай пашыраная так званая „образованщина“, гэта значыць: людзіна з вышэйшай адукацыяй, з аднач асна невысокай культурай светаразумення. Іх, звычайна, не вучаць думаць. Яны — патрэбныя сістэме робаты, выканаўцы загадаў. Пазбаўленая класавай інтэлігенцыі нацыя паршывее маральна і дэгенеруецца фізічна. З расійскіх традыцыяў захаваліся трактоўка інтэлігентаў, як дармаедаў, і культ хітрасці ўсякіх „ванькаў-дурачкоў“. Непавага да разумнасці і ўмельства, і захапленне шаленаватымі героямі на злом галавы... Токар зарабляе ўдвая больш за інжынера, але нашмат менш ад пузатага начальніка. Якая ж тут можа быць тэхналагічная пагоня за Еўропаю?

Адсутнасць інтэлігенцкай праслойкі грамадства відочная ў пачынаннях Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне“. Гэта, на жаль, студэнцка-прафесарскі рух, у асяроддзі якога так званы чалавек працы пачуваецца чужа. Дарэчы будзе заўважыць, што нячаста можа быць іначай, калі не забываецца пра механізм нарадзінаў нацыянальна-вызваленчага руху. Лёгка змагацца з ім у пачатковай яго стадыі. Народныя масы пойдуць аднак за абяцанкамі рэжыму, пакуль не пераканаюцца, што ўладны апарат зусім абвяў і не ў стане даць што-колечы. Прыкладам кажучы, царскую Расію забілі не бальшавікі, пра якіх у семнаццатым годзе мала хто і чуў, але катастрафічныя вынікі для імперыі ад яе ўдзелу ў першай сусветнай вайне (улада ў той кастрычніцкі час валялася на вуліцы!). Камунізм у Беларусі знішчыць не „Адраджэньне“, ідэалы якога мала зразумелыя замужычэламу народу, але славутая аварыя ў Чарнобылі, па сваёй шкоднасці роўная ажно дзесяці атамным бомбам, што скінулі амерыканцы на Хірасіму і Нагасакі. Смерць ад радыяцыі прыходзіць паволі, але наўмольна. Мінімум двум мільёнам беларусаў наканаваны прадчасны і пакутны канец; асабліва дзеці асуджаны на кароткавечнасць. У бліжэйшыя гады чакае нацыю шок, дэсперацыя і бунты.

**(Працяг будзе)**

### НА АНУФРЫЯ Ў ЯБЛАЧЫНЕ

24 чэрвеня давялося быць у Яблачыне.

Шырокія надбужанскія лугі, вясёлка ракі ўецца сярод кустоў, цудоўныя дубы на ўзгорках.

25 чэрвеня ў аколіцы Яблачына збіраюцца з усіх бакоў людзі на свята святога Ануфрыя, апекуна манастыра і мясцовай царквы.

Святы Ануфрый жыў у чацвёртым стагоддзі нашай эры. 63 гады ён правёў на пустыні ў малітвах і роздумах.

Але чаму ж ён стаў апекуном манастыра і царквы ў Яблачыне? Як гаворыць легенда, ікона з яго партрэтам прыплыла ў гэтыя мясціны з нуртам Бугу. І на гэтым месцы, куды даплыла ікона, людзі ў палавіне XV стагоддзя пабудавалі царкву і манастыр. У канцы XIX стагоддзя Яблачын быў ужо цэнтрам праваслаўя на Падляшшы.

Цяпер тут ёсць Вышэйшая праваслаўная духоўная семінарыя, а таксама адзіны ў Польшчы мужчынскі манастыр.

Шмат людзей сабралася сюды на фэст. Вялікай грамадой людзі сядзелі ля царквы, спявалі набожныя песні. У царкве былі запалены тысячы свечак. Вячэрня прайшла ў супольнай малітве.

Два дні мы святкавалі Ануфрыя ў Яблачыне. Праваслаўнага люду было столькі, як на Яснай Гары ў Чэнстахове каталікаў.

**Андрэй Гаўрылюк**

**Лепш не прыдумаеш**

### ПЕРШЫ ЎРАДНІК

**„Будучы першым ураднікам у Дзяржаве, наш солтыс зусім адызаляваўся ад грамадскай працы. Як бы выглядала жыццё на свеце, калі б усе людзі пайшлі шляхам, якім вядзе сябе наш солтыс? Вельмі шкада, што на такіх людзей сонейка свеціць і вецер вее“.**

**(Урывак з пісьма ў рэдакцыю)**

# ГДАНЬСКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА 1989–1990

і бацькоў-беларусаў, пражываючых у Гданьску-Гдыні-Сопаце. Тут аказваецца, як нялёгка вывучыць родную мову, калі штодзень яе не ўжываеш. Урокі музыкі вядзе студэнт музычнай акадэміі Ірынай Лаўрашук, а ўрокі англійскай мовы — супрацоўнік Гданьскага універсітэта Юрка Балялэк.

21 кастрычніка 1989 г. адбыўся агульны сход нашага аддзела БГКТ, на які прыехаў сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк. Дзякуючы яго візіту бліжэйшымі нам сталі праблемы палітычнага жыцця беларусаў на Беласточчыне.

28 кастрычніка ўдзельнічалі ў спатканні з праф. Тадэушам Лэпкоўскім, якое прайшло ў касцёле ў Сопаце-Каменным Патоку. Прафесар расказаў пра нацыянальныя меншасці ў Польшчы (гэта надта модная тэма апошнім часам у Польшчы). Апрача таго, што ўсім вядома, сабраныя — у большасці палякі — даведаліся, што:

— 40 працэнтаў АК на Віленшчыне складалі беларусы;

— пасля І сусветнай вайны ў Беластоку польская мова не была ў паўсюдным ужытку — паводле ўспамінаў аднае беластоцкае яўрэйкі, якая польскую мову пачула першы раз у Беластоку падчас вайны;

— у Явожне (Шлёнск) пасля ІІ сусветнай вайны існаваў канцэнтрацыйны лагер для ўкраінцаў.

11 лістапада 1989 г. Лена Глагоўская правяла лекцыю на тэму: „Беларускія партыі ў міжваеннай Польшчы“.

9 снежня мы гасцявалі гісторыка Алега Латышонка, які зрабіў даклад пра беларускую эміграцыю.

Традыцыйна ўжо мы адсвяткавалі Новы Год у сваім клубе.

13 студзеня 1990 г. мы таксама наладзілі баль на Новы Год паводле старога стылю. У 12 гадзін ночы мы супольна з украінцамі шумна адзначылі Новы Год на Доўгім Таргу вакол Нептуна, здзіўляючы тым гданьскую паліцыю, якой няўцям было такое святкаванне.

19 студзеня — ёлка для дзетак у клубе і Дзед Мароз з падарункамі. Дзеткі выступілі са святочнай праграмай і паказалі п'есу „Праведалі“. Другі раз дзеці гулялі ў святліцы пры царкве (21 студзеня), дзе дэкламавалі гданьскім прыхаджанам вершы, спявалі песні і паказалі п'есу.

72 гадавіну БНР мы адсвяткавалі ў Вільні і Гародні з тамашнімі беларусамі.

26 мая 1990 г у Гданьску заснавалася тэрытарыяльная рада БДА. Яе старшыня — Міхась Куптэль.

1 чэрвеня нашы дзеці святкавалі Дзіцячы дзень. Былі конкурсы са сціплымі ўзнагародамі і салодкі пачастунак.

14 чэрвеня наладзілі ўжо традыцыйны рэйд па Аліўскім лесе.

20 чэрвеня ў Доме савецкай навукі і культуры мы паглядзелі фільм „Круглянскі мост“ паводле аповесці Васіля Быкава.

22 чэрвеня адбылося ўрачыстае заканчэнне школьнага года. Дзеці атрымалі пасведчанні з ацэнкамі і кніжныя ўзнагароды. З радасцю некаторыя з іх прынялі запрашэнне на Беларусь.

Ужо ў час канікул, 12 ліпеня, мы спаткаліся ў клубе з рок-гуртам „Уліс“, які прыехаў з Мінска на рок-канцэрт у Сопат.

Падсумоўваючы мінулы год у нашай дзейнасці, трэба адзначыць, што ўдалося нам вырашыць шмат праблемаў арганізацыйнага характару. Правялі рамонт у клубе, памалявалі сцены, Юрка Ялоза зрабіў сапраўдныя дзверы. Прыдбалі сабе новую мэблю.

Атрымалі беларускія кніжкі ад суполкі „Скарыніч“ з Мінска, за што пры гэтай нагодзе кажам: дзякуй!

Шкада, што пабыўка беларускіх мастакоў у Сопаце і выстаўка іхніх прац прайшлі без нашага ведама. Апошнім часам выстаўку беларускага мастацтва арганізуе таксама Дом савецкай навукі і культуры ў Гданьску. На жаль, гэтая прамоцыя адбываецца без нашага ўдзелу, таму што нам не хапае фінансавых сродкаў. Нялёгка дзейнічаць у цяперашніх эканамічных варунках. Астаецца мець надзею, што прыватызацыя і іншыя эканамічныя змены не прывядуць да заняпаду нашай актыўнасці — культурнай і асветніцкай. З задавальненнем і надзеяй вітаем праклямацыю дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі і спадзяемся на большае зацікаўленне ўрада БССР праблемамі беларусаў у Польшчы, у тым ліку і ў Гданьску.

**Лена Глагоўская**

гія стагоддзі, у тым ліку і XV стагоддзе, належаў да Вялікага княства Літоўскага-Беларускага і быў яго інтэгральнай часткай.

З гары бруду, якім закідвалі раней і закідаюць сёння Вялікае княства Літоўска-Беларускае за фактычны трыумф ягонай зброі пад Грунвальдам, калупнем яшчэ адзін камяк. Як вядома, у выніку перамогі на Грунвальдскім пабоішчы не была здабыта крыжацкая сталіца Мальбарк і не наступіў раптоўны заняпад Ордэна. Ён хутка адрадзіўся, абнавіўся і пачаў зноў пагражаць суседнім землям і ў першую чаргу Вялікаму княству Літоўска-Беларускаму. І вось над тым, што войскі Ягайлы і Вітаўта тую адну сотню кіламетраў з грунвальдскага поля пад Мальбарк цягнуліся ажно шэсць дзён, польскія летапісцы, гісторыкі і літаратары лямантуюць ужо ледзь не шэсць стагоддзяў, бо як жа ж, бачыце, можна было дапусціць да таго, каб, выразаўшы ў пень амаль што ўсю крыжацкую армію і яе камандаванне, і не паскорыць свайго паходу ды не захапіць апанаваны панікай Мальбарк?! А калі ўжо потым гэтае крыжацкае гняздовішча было акружана, дык чаму ж не была даведзена да пераможнага канца яго аблога? І каго ж вінавацяць усе пагалоўна амаль у гэтым гістарычным злачынстве, як вы думаеце? Вядома, Вялікае княства Літоўска-Беларускае і яго князя Вітаўта!... Бо гэта ж, паводле гэтых плакальшчыц слязлівых над ахвярамі гісторыі, бачыце, Вялікае княства і Вітаўт былі вельмі зацікаўлены ў тым, каб Ордэн... адрадзіўся. А дзеля ж чаго? А дзеля таго, каб ім можна было шантажаваць Польшчу... Скажыце, ці можна выдумаць што-небудзь больш подлае?...

А прычына павольнага руху з-пад Грунвальда да Мальбарка была вельмі простая: недысцыплінаванасць польскай арміі. Каралю прыйшлося зняць акружэнне Мальбарка і фактычна спыніць вайну проста таму, што польскія магнаты і шляхта не захацелі даць грошай на вельмі дарагую аблогу і зацяжное здабыванне мальбарскай крэпасці.

Абвінавачваюць армію Вялікага княства і ў тым, што яна нібыта самахоць пакінула аблогу Мальбарка і, не паведаміўшы нікога, пайшла сабе дамоў. А як жа ж было на самай справе? На вестку аб паражэнні пад Грунвальдам і зацятай абароне Мальбарка інфлянцкія (лівонскія) рыцары пачалі пагражаць нашэсцем на Вялікае княства Літоўска-Беларускае. Аднак Вітаўт са сваёй арміяй датуль не пакінуў аблогу Мальбарка, пакуль Ягайла ды польскія паны-рада не рашылі поўнасцю зняць акружэнне крыжацкай сталіцы. Таму „пра ніякую „здраду“ Вітаўта, як таго хоча Длугаш, не можа быць нават і гутаркі“, — сцвярджае той жа Кучынскі. Затое ён дадае, што ўсё польскае войска маліла Ягайлу зняць акружэне Мальбарка і як мага хутчэй вяртацца дамоў. І ў днях 18 і 19 верасня аблога была знята і ўся аб'яднаная армія адышла з-пад Мальбарка.

На жаль, з найбольшымі стратамі кіравалася дамоў армія Вялікага княства Літоўска-Беларускага — пад Грунвальдам і Мальбаркам, у прускай зямлі засталося навечна ляжаць каля 20 тысяч яго вояў, кожны другі ваяўнік... У асноўным гэта былі беларусы. „А колькі палягло палякаў?“ — запытаецце. Невядома. Але не гэтак многа, бо тады гэты лік было б відаць усюды...

Вярталіся нашыя пераможцы параненыя, хворыя, знямажаныя, а ў Айчыне чакала іх новая нягода: інфлянцкія (лівонскія) рыцары парвалі ранейшую дамоўленасць аб міры і накінуліся на пагранічныя землі Вялікага княства. Што ж, папоўніўшы моладзю напалову парадзеўшыя харугвы ды забыўшыся на свае раны і слабасці, не перадыхнуўшы нават на хвіліну, давялося ім імчацца ў Пагоні на новага ворага. Свядомасць абавязку перад роднай зямлёю і пачуццё Трыумфу з Грунвальдскага пабоішча давала ім моц і натхненне да новых змаганняў за Бацькаўшчыну.

**Мікола Гайдук**

P.S. На гучна святкаваную на Грунвальдскім полі 580-ю гадавіну славутай бітвы Прэзідэнт Рэчы Паспалітай запрасіў сяброў з Вільні, Прагі і Масквы, а для гасцей з Мінска і Кіева запрашэнняў не хапіла, мабыць, з-за крызіснага недахопу паперы ў Польшчы.

## ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

### ДУША

**— Гэтэ зелечко гэто зьверабуой, ну, дзюравец. А чаму вуон так называецца? Чалавіек можэ піці яго на жалудок, на травенне, значыт, а куонь наесццэ і можэ здохнуць. Ты вазьмі квіетачку, вазьмі сьцісьні ў пальцах; ля: чырвонэ, як кроў людзка. Гэто таму каліcь лічылі яго чарадзіейным; мало катора кветка плачэ чырвонаю крывёю, крываві́т ано жывое стварэнне, і то не ўсё. Чэрвяк крывіе ні мае, але вуон ні мае душэ. Ну, мае якуюсь там, але ні такую, як чалавек чы такі куот. Бо ката чы маўпу Буог зрабіў пэрад чалавеком. Да чалавіека Буог так чыніў сьвіет: сказаў: „Стань!“ І ўсё ставалосэ. Чы то сьвятло, чы земля, чы вада, чы трава, чы зьвіер. А чалавіека склеіў з чырвонае землі, і таму ему даў іме: „Адам“. А посьле даў яму духа і стаў Адам „душою жывою“. Кроў паплыла па жылах, а дух пачаў варушыць лёхкіе, і Адам адчыніў вочы, угледзіў сьвіет, зачаў думаці і ўстаў. Даў Буог Адамаві езык, каб гаварыў і называў усё, што забачыт. Гаворат, што пакуоль езыкі людзям ні памашалісэ на вежы Бабэль, усе гаварылі па-жыдуоўску, бо Адам, быў жыдом. После быў патуоп, але чаму, калі Ной таксамо гаварыў па-жыдуоўску, бо туолькі адзін Ной правэдны быў, то чаму знуоў туолькі езыкоў зрабілосэ? І ў каждум езыку можно Бога хваліці, вуон кажды езык панімае, кажду малітву, калі чалавіек чыстого сэрца. А ты глідзі: і праступнікі часом моляццэ, каб зладзейство ім удалосо. І што, як ты думаеш, мало ні удаеццэ? Чы гэто Буог дапускае? Гэто сатана так на чалавіека дзялае. Буог даў чалавіеку вуольну волю. Сатана — пан земліе, а каніец сьвіета ужэ блізкі, то стараеццэ, каб як найбуольш людзей з ім пагібло, а што ему самому у пеклі смажыццэ? Ужэ блізко канец гэтого сьвіету, ешчэ крыху Буог пачэкае. Бачыш, усё войны, эйцы, брат брата нінавідзіт, сын бацька. І мало хто думае, бо ні мае часу думаці, ано грошы і грошы грабэ. Сьлепые людзі сталі. І ніхто нікому памагчы ні хочэ, навэт сам сабіе! Я тут стараюсэ хоць зіелечком памагчы людзям, а ваны адразу да аптэкі багут, таблеткі жарут. Што таблетка, хэмія? Буог даў расьліны, у іх такая моц! З зямліе і неба барэ сілу такое зіеле, і з ночы, і з дажджу, і расэ. Пакуоль патуоп ні быў, то піталісэ расьліны туолькі расою, а цяпэр ваны ешчэ буольш з уселенным зьвязаны. І расьліны е атрутны, і цэлебны, да ўсяго. Каліcь то пэрадавалі з бацькі на сына, з мацеры на дачку, што якая расьніна дае, а цяпэр то мало хто пуомніт. Я тут ніякі ні знахуор чы шаптун, я туолькі бачу, і сьніццэ мніе часом такі сон: іду па лонцы, а да мане траўкі хіляццэ, кланяюццэ і шэпчут, і кажут: „Бары мане!“ І я як тая траўка вырас, і схіліцца да зіемле ўжэ пара, а посьле і з мане што вырасьце, калі прыгаджусэ.**

**Запісала МІРА ЛУКША**

## ХРОНІКА

27—28 жніўня БГКТ і рэдакцыю „Нівы“ наведалі госці з Беларусі: народны дэпутат, сакратар Мінскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны **Уладзімір Новік**, ягоны калега па ТБМ, член Каардынацыйнай рады Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі **Мікола Цмыг** і старшыня аргкамітэта ўстаноўчай канферэнцыі Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына“, рэдактар выдавецтва „Мастацкая літаратура“ **Яўген Лецка.**

Мэта візіту — усталяванне сувязяў паміж МГР ТБМ і ГП БГКТ, а таксама паміж НДПБ і БДА. Госці перадалі ў дар Беларускаму таварыству ад ТБМ каля 200 кніг беларускіх аўтараў.

# НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**
**11. Дзеяслоў — працяг.**

Дзеясловы аб'ядноўваюцца ў такія словаўтваральныя тыпы, якія вызначаюцца пэўнымі заканамернымі суадносінамі паміж асновай інфінітыва і асновай цяперашняга часу. Гэтыя словаўтваральныя тыпы называюцца **класамі дзеясловаў.** Адны класы дзеясловаў аб'ядноўваюць вялікую колькасць слоў **(прадуктыўныя класы)**, а другія — абмежаваную колькасць **(непрадуктыўныя класы)**

У сучаснай беларускай літаратурнай мове выдзяляюцца чатыры прадуктыўныя класы. [1]

1. Першы клас аб'ядноўвае дзеясловы з асновай інфінітыва на **-а- (-я-), -э- (-е-)** і асновай цяперашняга часу на **-aj- (-яj-), эj- (-еj-): канча-ць — канчаj-уць, здараве-ць — здаравеj-уць.**

2. У другі клас уваходзяць дзеясловы з асновай інфінітыва на **-ну-**. Гэты суфікс захоўваецца і ў прошлым часе, а ў будучым — толькі яго частка **(-н-): крыкну-ць — крыкну-ў, крыкну-л-а, крыкну-л-і; крыкн-у, крыкн-еш, крыкн-е, крыкн-ем, крыкн-еце, крыкн-уць.**

3. Да трэцяга класа належаць дзеясловы з асновай інфінітыва на **-ава- (-ява-)** і асновай прошлага часу на **-уj- (-юj-): святкава-ць — святкуj-уць, малява-ць — малюj-уць.**

4. У чацвёртым класе аб'ядноўваюцца дзеясловы з асновай інфінітыва на **-і- (-ы).** Гэтыя галосныя ў аснове цяперашняга часу не захоўваюцца: **абкасі-ць — абкос-яць, прыносі-ць — прынос-яць, трывожы-ць — трывож-аць.**

Колькасць непрадуктыўных класаў большая — адзінаццаць, але колькасць дзеясловаў, якія належаць да гэтых класаў, значна меншая — каля чатырохсот.

У сувязі з тым, што адны дзеясловы могуць выступаць з прамым дапаўненнем, а другія — не, усе дзеясловы падзяляюцца на дзве групы: **пераходныя і непераходныя.**

Пераходныя дзеясловы абазначаюць дзеянне, накіраванае непасрэдна на аб'ект у форме вінавальнага склону без прыназоўніка: **жаць (жыта), капаць (бульбу), пісаць (пісьмо), чытаць (газету).** Такі аб'ект называецца прамым дапаўненнем. Прамое дапаўненне не заўсёды мусіць быць выражана; важным з'яўляецца факт, што яно можа выступіць: **Дзень у дзень ідзе ён (Тарэнта) туды ў заработкі: то жаць, то касіць, то прыбіраць снапы.** (Гал.)

Аб'ект дзеяння пры пераходных дзеясловах можа выражацца і формай роднага склону:

— калі прамы аб'ект абазначае частку чаго-небудзь (частковы аб'ект): **выпіць (малака), нарэзаць (хлеба), прынесці (вады),**

— калі прамы аб'ект выступае пры дзеясловах **„браць, даць, прасіць** і падобных, калі **бярэцца, даецца і г.д.** на час (аб'ект часовага карыстання): **вазьмі нажа, дай ручкі, папрашу сшытка".** [2]

— калі пры пераходным дзеяслове ёсць адмоўе: **не глядзеў (фільма), не прачытаў (аповесці), не сустрэў (сябра).**

Непераходныя дзеясловы абазначаюць дзеянне, якое не накіравана на аб'ект. Яны не могуць мець пры сабе прамога дапаўнення: **бегчы, ісці, адпачываць, працаваць, сумаваць, расці, цвісці, зелянець.** Да непераходных належаць усе зваротныя дзеясловы: **абувацца, мыцца, смяяцца.**

**Зваротныя дзеясловы** — гэта дзеясловы з постфіксам **-ся (-ца, -цца).**

Паводле значэння падзяляюцца яны на некалькі груп: [3]

— дзеясловы **ўласна-зваротнага** значэння — паказваюць, што аб'ектам дзеяння з'яўляецца сам суб'ект: **апранацца — апранаць сябе, мыцца — мыць сябе, пагаліцца — пагаліць сябе,**

— дзеясловы **ўзаемна-зваротнага** значэння — абазначаюць дзеянне, якое адбываецца паміж дзвюма ці некалькімі асобамі: **вітацца, спаткацца, кахацца, цалавацца,**

— дзеясловы **агульна-зваротнага** значэння — абазначаюць унутраны стан суб'екта: **злавацца, нервавацца, цешыцца** або знешнія, фізічныя дзеянні: **аддаляцца, вяртацца, цягнуцца,**

— дзеясловы **ўскосна-зваротнага** значэння — паказваюць на дзеянне, якое суб'ект утварае для самога сябе: **будавацца — будаваць сабе (дом), запасацца — запасаць сабе (дровы),**

— дзеясловы з **якасна-зваротным** значэннем — паказваюць на ўласцівасць суб'екта ўтвараць пэўнае дзеянне актыўна: **вожык колецца, кот дзярэцца** або пасіўна: **дрэва гнецца, хлеб крышыцца.**

---

[1] Глядзі: М.Ц. Кавалёва, А.К. Юрэвіч, Дзеяслоў, у: Сучасная беларуская літаратурная мова пад рэд. Ф.М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 134—135.

[2] Там жа, с. 136.

[3] Там жа, с. 138—140.

# КУХОННЫЯ ПЛЁТКІ

## ФАРШЫРАВАНЫЯ КАБАЧКІ

На 1 кг кабачкоў ці цукініі бярэм 10 дэкаў рысу, 2 яйкі, 5 дэкаў цыбулі, 10 дэкаў тлушчу, 15 дэкаў памідорнай пасты, лыжку масла, 2 лыжкі мукі, соль, перац і цукар, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Цыбулю абабраць, спаласнуць, пасячы, крыху падсмажыць на тлушчы. Рыс спаласнуць, зварыць, перамяшаць з яйкамі і падсмажанай цыбулькай. Дадаць солі і перцу. Кабачкі памыць, абабраць, перарэзаць уздоўж напалавіну, выняць семечкі і напоўніць фаршам. Палажыць у вогнетрывалы посуд, дадаць рэштку тлушчу, даліць вады. Тушыць у духоўцы. Калі страва будзе амаль гатовая, прасеяную муку перамяшаць з растопленым тлушчам, крыху развесці адварам з гароднiны ці вадой, памешваючы, закіпяціць. Спалучыць з памідорнай пастай, дадаць солі і перцу, а таксама крыху цукру. Падрыхтаваным соусам заліць кабачкі. Падаваць непасрэдна пасля падрыхтоўкі, пасыпаючы пасечанай зялёнай пятрушкай.

## ЧЫРВОНАЯ КАПУСТА

На 80 дэкаў чырвонай капусты трэба ўзяць паўтары лыжкі шмальцу або сланечнікавага алею, адну лыжку мукі, лімонны сок, соль, цукар.

Ачысціць капусту, памыць яе, дробна нашаткаваць, палажыць у каструльку, дадаць паўшклянкі кіпячай вады, пасаліць, варыць некалькі мінут у адкрытай каструльцы. Тады накрыць, зварыць. Растапіць шмалец, дадаць прасеяную муку, перамяшаць, падаграваць хвіліну, памешваючы. Мука павінна лёгка падсмажыцца, мець залацісты колер. Тады засмажку спалучыць са зваранай капустай. Перамяшаць, закіпяціць, дадаць сок з лімона, соль і цукар. Выкласці капусту ў салатніцу і падаваць да такіх страў, як гуска ці качка. На больш урачысты прыём можна дадаць у капусту чырвонае віно. На пададзеную колькасць капусты трэба ўзяць 3/4 шклянкі віна, а дадаюць яго разам з засмажкай.

**Гаспадыня**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Я табе ўжо калісь пісала аб тым, як мне ў жыцці не пашанцавала. Быў хлопец, мой першы хлопец, з якім я пазнаёмілася ў 18 гадоў і якому аддалася без рэшты. Мы сябравалі з ім тры гады, а пасля вырашылі, што жыць адзін без другога не можам, і пажаніліся. Радасць трывала не надта доўга. Ужо праз год я адчула нейкі холад у адносінах майго мужа да мяне. Муж стаў вульгарны, не лічыўся са мной, пачаў штораз часцей выходзіць без мяне. А пасля ўсё вылезла наверх. Бачылі яго з цяжарнай дзяўчынай, з якой, як я даведалася, ён ужо сустракаўся даволі доўга. Ну што ж, падумала я, спадабалася яму іншая, дык няхай сабе ідзе. Я падала на развод і развод нам далі вельмі хутка, бо мы не мелі дзяцей. Мой муж ажаніўся з той другой дзяўчынай, і ўжо нарадзілася ў іх дзіця. Я засталася адна, без сяброў, без кахання. Магла толькі разлічваць на маці, якая таксама выхоўвала мяне адна.

Маці настойвала, каб я змяніла асяроддзе... Папыталася тут і там знаёмых і неўзабаве я атрымала з заграніцы запрашэнне. Паехала. Ну што ж, вядома, мае кваліфікацыі там не прыдаліся да нічога. Знайшла працу служанкі. Даглядаю старэйшых людзей, прыбіраю ў хаце, вару ім таксама. Жыццё мае было б цалкам смутнае, калі б у маіх гаспадароў не быў прыстойны сын. Наогул то ён не звяртае на мяне ўвагі як на жанчыну, але ж вось пазнаёміў мяне са сваім сябрам. Гэты сябра ў першы ж дзень запрасіў мяне на вячэру ў рэстаран. Мы пачалі сустракацца. Ну што ж, не скажу, каб быў ён супермэнам. Немалады ён ужо, хутка стукне яму пяцьдзесят. Ён нават любіць паехаць са мной за горад ці проста так пахадзіць па вуліцах, а калі я маю вольныя хвіліны, дык ён запрашае мяне да сябе. Але вось адно мяне мучыць. Я сустракаюся з ім толькі таму, што мне сумна. Усё ж прыемна, калі нейкі мужчына круціцца вакол мяне хоць ён не надта малады і не надта прыгожы. Але як падумаю, што мне ўсяго 25 год, а ён удвая амаль старэйшы за мяне, дык робіцца мне вельмі маркотна і думкамі я вяртаюся да свайго былога мужа.

Але жаніцца са мной і так мой новы знаёмы не збіраецца. Ён стары кавалер, мае свае прывычкі і, здаецца, не збіраецца змяніць іх. Аднак як пераконвае мяне, што варта перастаць быць служанкай, што трэба прыйсці жыць да яго і пачаць вучыцца. Мне ад гэтых размоў робіцца сумна, бо чаго я пайду да яго: я хачу кахаць, так як кахала свайго мужа, але і хацела б быць каханай. А ці ён кахае мяне, калі яго прывычкі важнейшыя яму, як каханне да мяне?! Мне здаецца, што калі чалавек некага кахае, то павінен згадзіцца на ўсё, дастасавацца да новых умоў і патрабаванняў жонкі. Я нават сёлета прыязджала з ім дахаты ў Польшчу, але паехала ізноў за граніцу яшчэ больш сумная, чым прыехала.

Дарагое Сэрцайка, як і дзе знайсці страчанае каханне?

**Вераніка**

Вераніка! Не вяртайся ўжо думкамі да старога кахання! І так яго не вернеш. Няхай сабе твой былы муж будуе новае шчасце, мо сапраўды вы не былі адпаведнай парай... Але калі будзеш мучыць сябе тымі ўспамінамі, дык ніколі не знойдзеш наступнага кахання. Пастарайся выкінуць яго не толькі са свайго сэрца, але і са сваёй памяці. Паспрабуй дыхнуць свабодна! І тады ўбачыш, колькі навокал прыстойных хлопцаў, якія толькі чакаюць, каб ты глянула на іх і ўсміхнулася сардэчна. Проста так, без прычыны. Усміхніся і ідзі сабе далей. Думаю, што прынамсі кожны дзесяты не вытрымае і пойдзе за вясёлай дваццаціпяцігодкай.

**Сэрцайка**

# ВЕР-НЕ ВЕР

Астроне, мне вельмі часта сняцца падобныя сны. Быццам знаходжуся я ў нейкай невядомай мне мясцовасці, найчасцей на вёсцы. Усё ў гэтай вёсцы нейкае такое шэрае, безнадзейнае, а часамі бывае гэта нават уначы. І так заўсёды здараецца, што я іду праз чужыя хаты, нават не ведаю, што я там раблю. Але заўсёды доўга шукаю другога выйсця. У канцы канцоў я гэтае выйсце знаходжу, хаджу па загарадзях, пераламжу праз нейкія плоты і толькі тады выходжу на дарогу. Гэтыя сны праследуюць мяне так часта, што я вырашыла напісаць табе, Астроне, і папытацца, што яны абазначаюць.

**Зіна**

Зіна! Абазначаюць яны, што жыццё тваё надта пакручастае, нялёгкае, што маеш шмат клопатаў, якія праследуюць цябе не толькі ўдзень, але і ўначы. Важнае тое, што ўсё ж такі ты ўрэшце выходзіш на дарогу, якую шукала, і выйсце з тых хат і панадворкаў таксама знаходзіш! Аднак жа каштуе гэта табе нямала высілкаў, але ж без гэтага ў жыцці не абыйдзешся.

**Астрон**

# Зорка
## старонка для дзяцей

Васіль Жуковіч

### РОДНАЕ НЕБА

Неба роднае,
люблю я
вышыню тваю —
і чаруеш, і хвалюеш
ты душу маю.

У блакіце аблачынку
белую
люблю —
нібы лёгкую пушынку,
позіркам лаўлю.

Неба мілай Беларусі —
для душы прастор!
Аж пад воблакамі бусел
крылы распасцёр.

Незалежна як, шчаслівa
белы птах плыве!
Хораша, немітуслівa
вышыня жыве.



Фота В. Жушмы

Артур Вольскі

### БАРАВІК

*Праз iглiцу баравiк*
*не прабiўся, не пранiк.*
*Да святла праз шэры мох*
*пракараскацца не змог.*

*Не адзiн тут бот цi кед*
*пракладаў на золку след.*
*Як прайшлiся грыбнiкi,*
*ад грыбоў — адны пянькi.*

*Але той схаваны грыб*
*мы i самi не знайшлi б.*
*Ды з вiльготнаю цямнiцай*
*баравiк не мог змiрыцца.*

*— Так, без сонейка, у бары*
*i струхлееш да пары!...*

*Ён напяўся, падналёг*
*i прабiў нарэшце мох.*

*Ах, як хораша наўкол!*
*Зiхацiць у росах дол.*
*Неба яснага блакiт*
*чыстай чырванню прашыт...*

*Але тут пачуўся крык:*
*— Глянцье! Ну i баравiк!*
*Што ж, iдзi, браток, у кош...*
*I на сонцы блiснуў нож.*

*А праз момант баравiк*
*са свайго прытулку знiк.*
*Толькi беленькi пянёк*
*доўга ўслед мiргаў здалёк.*

*Грыб на свет глядзеў з каша,*
*i спявала ў iм душа:*
*— Хоць i трапiў я у кош,*
*Але ўбачыў сонца ўсё ж!...*



Хлопцы з вакальна-інструментальнага калектыву „Жучкі" з Бельска. Фота Я. Чэрнякевіч.

Алесь Наварыч



### Хто першы?

Ішлі Петрык з Янкам аднаго разу са школы. Ідуць сабе, ідуць і бачаць — стаіць ля вулічнага перахода бабуля з вялізнай сумкай яблыкаў. Стаіць і, мабыць, разважае, як ёй перабрацца на другі бок вуліцы — машыны то туды, то сюды снoўдаюць. Петрык і кажа Янку:

— Я першы падбягу і дапамагу бабулі!

— Не, — пярэчыць Янка, — лепей я першы.

Кінуліся яны навыперадкі. Схапілі бабуліну сумку, адзін у свой бок цягне, другі — у свой. Бабуля спалохалася, а потым схапіла аднаго за руку, другога за каўнер і як закрычыць:

— Ах вы, нягоднікі! Зараз завяду, куды трэба...

Пачалі хлопчыкі апраўдвацца: маўляў, хацелі дапамагчы.

— Хто ж так дапамагае? — сярдзіта буркнула бабуля, потым лагодней дадала: — Трэба ўсё ў згодзе рабіць, вось так. Бярыцеся за сумку: ты, вяснушкаваты, за правую ручку, а ты, кірпаты, — за левую, і пойдзем. Я ж буду па баках глядзець, каб машына якая не наскочыла.

Хуценька перайшлі ўсе разам, потым панеслі сумку да самога дому, дзе жыла бабуля.

— Як вас зваць? — пытае на развітанне старая.

— Мяне — Петрык!

— А мяне — Янка!

— Вось вам, Петрык і Янка, па яблыку, дзякуй за дапамогу. Але ніколі не забывайце: перш, як што зрабіць, не спяшайцеся, добра падумайце, каб усё было зладжана.

Пайшла бабулька ў кватэру, а хлапчукі — дахаты, любуючыся чырванабокімі яблыкамі і радуючыся, што дапамаглі старой.

Легенды нашай зямлі



### Пра чартоў

Недалёка ад нашай вёскі Азяблы (Беласточчына) ёсць возера Горбач. Расце там малады багун. Цяпер дайсці да возера можна дарогаю праз лугі і лес.

Калісьці гэты лес і навакольныя абшары былі недаступнаю дрыгвою. Здарылася, што хтосьці ноччу, зблытаўшыся з дарогі, трапляў у непраходны лясны гушчар. Тады чынілася самае страшнае.

Нейкая постаць хадзіла перад чалавекам і вызначала яму дарогу. Той, хто ішоў следам гэтай з'явы, трапляў у нетры, адкуль цяжка было выбрацца. Бывала і так, што калі хто трапіць сюды адвячоркам, то праходзіць да самага ранку, пакуль пазнае знаёмае месца.

Старэйшыя гавораць, што даўней жылі тут чэрці і сюды нікому нельга было заходзіць. Калі чалавек з'явіўся ў іхнім уладанні, былі яны надта злыя і хацелі яму па-свойму падзякаваць за гэта.

Цяпер усе старыя і маладыя згодна гавораць, што чарцей тут няма. Чэрці даўно адсюль уцяклі немаведама куды, і ніхто іх не бачыць.

Мо пайшлі на пенсію?

### НЕЧЫСЦЬ ЗАМАНЬВАЕ Ў БАЛОТА

Што вы ні кажэце, а я сам добра чуў, як пішчала нячыстая сіла, як падманьвала мяне ды зазывала перш у лес, а потым у балота.

Вось як было тое здарэнне.

Як цяпер памятаю, павёў я на круговінку пасці каня. Я ўжо быў хлопец ладны, можа, гадоў дванаццаці, як вось бацька кажа:

— Вазьмі, дзетка, ды папасі ксней. Чаго яны ў хляве галодныя зубамі звоняць? Завядзі на круговінку, ці што, няхай паходзяць.

Надзеў я на коней аброці, ускочыў на каня, а кабылу поруч вяду, дый пагрукацеў на круговіну.

Мой бацька жыў на хутары. Да круговіны было, можа, з паўвярсты. Я хутка па вузкай дарожцы праехаў праз густы лес, саскочыў з каня каля круговіны, пусціў коней на пашу, а сам садраў бяросту ды давай рабіць кузобчык на ягады. Толькі я скруціў у ражок бяросту, як чую, што блізенька ў хвойнічку плача дзіця. Я кінуў кузобчык дый пабег проста туды.

Расхіліў я густы маладняк, пралез у самую гушчэру, аж чую, што дзіця плача зусім блізенька, але ў другім баку.

Доўга не думаючы, кінуўся туды. Чую, дзіця плача ў мяне ззаду. Пабег я туды. Яно далей. Я бегчы, а яно ўсё ад мяне ўцякае. Я даганяць, а яно далей. Во здаецца, яно плача так бліз-

(Працяг на стар. 10)

